# ЛЯМАНТ

№1
25/03/2022

**МАНІФЕСТ**

Сёння ў сто чацвёртыя ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ цяжэй, яшчэ больш горка называць гэты дзень Днём Волі. З кожным годам мы ўсё далей і далей ад Беларусі, да якой ідзем усё жыццё. Усё больш уяўнай і насмешлівай здаецца тая незалежнасць.
Мы, неабыякавыя беларусы і беларускі, сёння дбаем пра кожнага з тысяч палітычных вязняў, якіх па афіцыйных звестках ужо болей за 1100 чалавек. Нам баліць за кожнага забітага і закатаванага крывавым рэжымам Лукашэнкі: ад Віктара Ганчара з Юрыем Захаранкам да Рамана Бандарэнкі і Вотольда Ашурка. Па нас б'е кожная ракета, запушчаная з беларускай зямлі ў бок мірнай Украіны. Нам цісНуць на грудзі тракі расейскіх танкаў, што едуць па нашай зямлі, па нашай мове і па нашай будучыні.
Высілкамі тэрору і рэпрэсій мы раскіданыя па ўсім свеце, а той, хто застаецца на сваёй зямлі, устаючы ранкам з ложку не мае ўпэўненасці, што вечарам ляжа ў яго, а не на скрываўленую бетонную падлогу ў катоўні.
Сёння на Беларусі вынішчаецца не столькі пратэст, колькі Беларусь і беларускі дух: наша мова, культура, тэатры і музеі, цэлыя кафедры ўніверсітэтаў, настаўнікі, журналісты, дзеячы культуры і мастацтва, спевакі – любы, хто мае чалавечую годнасць. Сёння небяспечна не толькі быць беларусам у Беларусі – небяспечна заставацца чалавекам у дзяржаве.
Кожны з нас – у думках, шэптам, словамі ці крыкам – выказвае рашучы і бескампрамісны пратэст цяперашняму нялюдскаму ладу на Беларусі. Зброя Лукашэнкі і яго хаўруснікаў у гвалце, хлусні і страху, у зніштажэнні гістарычнае памяці, нашае мовы і нашых традыцый, абясцэньванні і падмене каштоўнасцяў свабоды, гуманізму і роўнасці.
Мы бярэмся згуртаваць усе нашы творчыя, інтэлектуальныя, маральныя высілкі для барацьбы з тыраніяй у Беларусі, адраджэння ўсяго, што за гэтыя гады разбурана, скасабочана і знішчана ворагамі нашага народа і ўсяго чалавецтва. Беларуская мова ёсць асновай змагання з дыктатурай. Нацыянальная гісторыя – галоўны вораг акупантаў і іх ідэолагаў. Культура – наш стрыжань і наш супраціў, каб сказаць: Не вайне! Не гвалту! Не акупацыі! Не Лукашэнку! Гэта наш лямант, наша цвёрдае патрабаванне і няўхісная мэта.
Мы кажам гэта са старонак газеты, якая цяпер будзе выходзіць двойчы на месяц, каб зноў і зноў выказваць, што Беларусь Жыве, працягваць і множыць беларускую справу, падтрымліваць усіх, каму падтрымка патрэбна.
Ні шаптаць, ні кленчыць, а лямантаваць аб Беларусі, аб нас. Запрашаем далучацца кожнага і кожную, хто, як і мы, сённяшні дзень называе Днём Волі, хто гатовы да волі ісці і за волю змагацца!



**ЗМЕСТ:**



Пошта: gazietaLamant@gmail.com
Тэлеграм-канал: t.me/Lamant_gazieta

# ДЗІЎНЫ НОВЫ СВЕТ

Апошнія дні ў Менску бясконца і бессаромна свеціць сонца – быццам бы яму не паспелі сказаць, што навакольны свет ужо месяц як праглынула цемра. Сонца працуе ў пазаштатным рэжыме – як апошні раз – каб высвяціць для людзей простую, як снарад, які будзіць пасярод ночы прамым пападаннем у кватэру, ісціну: старога свету больш не існуе.

Так, старога свету больш не існуе – але мы яго пакуль яшчэ памятаем. Камусьці гэтая памяць засціцае вочы, стварае гарачкава-яркія, падманлівыя ілюзіі нармальнасці – гэтыя працягваюць жыць па інерцыі, старанна прытрымліваюцца стратэгіі трох малпаў. Але сонца бязлітасна: баішся казаць пра зло – маўчы, заштурхоўвай у сябе свае словы, колькі ў цябе ўлезе. Давіся імі, атручвайся. Але бачыць зло ты будзеш. Хай зло, падсвечанае вясновым менскім сонцам, вытарашчыцца на цябе з цёмных вакон зачыненай Аромакавы, з пустых абменнікаў і паліц у крамах, хай яно паглядзіць на цябе вачыма чалавека, які прынясе павестку тваймў сыну. (Чуць зло ты, напэўна, пачаў крыху раней – ужо колькі тыдняў яно лётае самалётамі, грыміць цягнікамі і гучыць з экранаў). Так глядзі, слухай і звыкай: больш ніколі не будзе, як раней.

Калі ты з тых, каму не патрэбна дадатковае асвятленне для таго, каб бачыць зло – ты, напэўна, і сам усё зразумеў. Ты адчуваеш канец старога свету, і табе страшна – ці страшна цікава, што будзе далей. Ты стаіш на руінах усяго, што ведаў, чытаў, казаў і любіў раней, імкнешся замацавацца ў часе і прасторы, спрабуеш ухапіцца рукамі і зубамі за рэшткі былога жыцця. І не разумееш, навошта яно было наогул, гэтае былое жыццё. Якая карысць цяпер з тваіх уяўленняў пра сусвет, тваіх успамінаў і каштоўнасцяў, калі яны ўсе датычацца старой рэчаіснасці? Што нам рабіць з нашымі даўнімі калектыўнымі траўмамі і дзе знайсці час, каб іх пражываць, калі штодзённа мы атрымліваем новыя? Як зразумець чужое гора, калі ўсё ніяк не можаш адгараваць свае?

Аб гэтым і ёсць цяпер наш лямант. Мы крычым, каб нас пачулі тыя, хто зусім побач – і тыя, хто бязмежна далёка. Мы намагаемся дакрычацца адно да аднога, каб пасля накіраваць наш агульны голас да іншых.

Натуральна, што падчас буйных гістарычных падзей людзі непазбежна губляюць глебу пад нагамі. Шукаць апору ў звыклых канстантах (матэрыяльных ці духоўных) не даводзіцца – пакуль незразумела, якія з іх застануцца з намі, перажывуць выпрабаванне трагедыяй і захаваюцца ў новай рэчаіснасці і чалавечай свядомасці. Шляхам няспынных інтэлектуальных намаганняў, цяжкай рэфлексіі і супрацы па стварэнню новага вобразу нацыі мы, безумоўна, прыйдзем да разумення тых каштоўнасцяў, якія будуць складаць падмурак нашага супольнага быцця. Гэтую працу трэба йпачынаць ужо зараз – і разам. Мы мусім памятаць самі і бясконца нагадваць тым, хто побач – так, у нас сапраўды забралі шмат. Але мы – мы засталіся. Калі не можаш абаперціся на вялікае і непахіснае, бо яго больш не існуе – трымайся маленькага і ўразлівага. Трымайся людзей.

У нас не засталося нічога, апроч нас. Проста зараз мы дапамагаем з эвакуацыяй, жытлом і ежай, пішам лісты палітвязням, сустракаем людзей пасля содняў, перакладаем і пішам вершы, складаем артыкулы і зводкі навінаў, кажам праўду на працы і на кухні, падтрымліваем адно аднога словам і справай. Цягам апошніх двух гадоў мы як ніхто зразумелі каштоўнасць гарызантальных сувязяў. Вялікая нацыянальная супольнасць пачынаецца са значна меншых па памеры згуртаванняў – сямейнага, сяброўскага ці нават суседскага кола. Беларусь з'яўляецца тады, калі нас больш, чым адзін – а значыць, яе не знішчыць. Кожная сустрэча, кожная шчырая размова, кожная агульная справа зноў і зноў аднаўляе ў нашай свядомасці нас саміх, замацоўвае нас у хісткім, зменлівым свеце; каб ісці наперад, мусім ісці поруч.

*Амялушка*

## НАПРАДВЕСНІ

*Што яна, гэта пакута, са мной зрабіла?! Я сам сябе не пазнаю.*
*(Янка Купала. «Раскіданае гняздо»)*

*А памятаеце, як у 2020 годзе ўсе мы захапляліся тым, як змяніліся беларусы? Давайце звернемся да класіка: менавіта пакуты кардынальна змяняюць чалавека. Украінскія падзеі моцна адбіваюцца ў свядомасці беларусаў. Мы раздзяляем боль нашых братоў і сясцёр. І ўжо заўтра мы самі сябе не пазнаем. Добра гэта ці не? Разважаем.*

Вяртаемся на два гады назад. Беларусы не сыходзілі з сусветных таблоідаў і ўвесь свет шчыра захапляўся смеласцю і духам беларусаў. Так, у 2020 быў пяройдзены Рубікон. Але сапраўднай лакмусавай паперкай, праверкай на трываласць нацыі становіцца менавіта 2022 год.

Мы не будзем паглыбляцца ў палітычны аналіз, разглядаць прычыны вайны, паглыбляцца ва ўзаемаадносіны рэжымаў. Паглядзім праз прызму паўсядзённасці, як змянілася жыццё вакол нас, хоць мы гэта і не заўсёды заўважаем.

**1. Талерантнасць і цярпімасць.**

У маім атачэнні шмат людзей, якія маюць тыя ці іншыя забабоны наконт колеру скуры, сексуальнай арыентацыі і да т.п. Не назаву і сябе чалавекам цалкам талерантным. Напэўна, скажам дзякуй савецкай мадэлі выхавання. Але відавочна, што жудасці, якія адбываюцца з блізкім нам народам, закранулі сэрцы беларусаў. Вы ўжо не пачуеце пра хахлоў і пшэкаў, хоць і раней гэтыя штампы не неслі, як правіла, за сабой негатыўнай афарбоўкі. Для людзей на першы план выходзіць чалавечае жыццё і само існаванне чалавечай асобы. Сумна, што гэтаму нас навучыла вайна. Але мы абралі шлях да дабрыні, і гэта адназначны плюс;

**2. Канчатковы падзел на "сваіх" і "чужых"**

Які ідзе, такую й вядзе – кажа нам трапнае беларускае выслоўе. Даводзіцца прызнаць: у Беларусі ўжо два гады ідзе сапраўдная грамадзянская вайна. Так, дзякаваць Богу, ніякіх актыўных баявых дзеянняў на нашай зямлі не вядзецца. Але ва ўсіх сферах грамадства ёсць умоўны бар'ер паміж прыхільнікамі старога і новага жыцця. Вайна ва Украіне – дадатковы каталізатар для таго, каб вызначыць, "свой" чалавек перад табой або не. Не можа не радаваць той факт, што пераважная большасць беларусаў пазірае на рэчы адэкватна, называючы рэчы сваімі імёнамі. Прымяняем у 2022 досвед 2020: не можа белае быць чорным, як і наадварот;

**3. Спорт НЕ па-за палітыкай**

Успамінаю "залатую" эстафету нашых біятланістак на Алімпіядзе 2018 года. Як я на радасцях выбегла на вуліцу пасля фініша Домрачавай са сцягам (хай сабе і чырвона-зялёным). Гонар і радасць перапаўнялі мяне настолькі ж, як цяпер – сорам і агіда. Я чалавек далёкі ад спорту, але не трэба быць экспертам, каб заўважыць, што тыя, хто грамчэй за ўсіх крычыць пра спорт па-за палітыкай, максімальна яго і палітызуе, а сярод моцных фізічна спартоўцаў лічаныя адзінкі – моцныя духоўна. Спартсмены – лідары меркаванняў для значнай колькасці насельніцтва, і менавіта іх маўчанне змяншае колькасць заўзятараў. Спорт у Беларусі цяпер (асабліва на фоне міжнародных "банаў") – гэта і ёсць следства палітычных, а не спартыўных працэсаў;

**4. Заначкі вяртаюцца!**

Беларусы заўсёды былі запаслівымі, але гады "стабільнасці" крыху прытупілі гэтую нацыянальную якасць. Вяртаецца старое-добрае: крупы, закаткі, долары – усім набіваюцца беларускія заначкі. Хачу зрабіць прагноз, што гэты жыццёвы прынцып вярнуўся да нас надоўга. Увогуле, у нас ёсць такая рыса: маўляў, хай лепей будзе, у гаспадарцы знойдзецца сваё прымяненне. Не выключаю, што нашы ўнукі яшчэ знойдуць на паліцах і антрасолях прадукты 2022 года вытворчасці. Варта аддаць належнае беларускім вытворцам: туалетная папера ў магазінах пакуль ёсць, ды й мукі, здаецца, не на тры дні засталося! А вось кошты – гэта ўжо справа іншая;

**5 (галоўнае на сёння). Глабалізацыя прынцыпу "абы не было вайны"**

Калі вайна грукае ў дзверы, ужо немагчыма не звяртаць увагі. Толькі раней выраз абазначаў прыблізна наступнае: я праглыну ўсё, усё стрываю, пра ўсё змаўчу, толькі адчапіцеся. Сёння выслоўе больш і больш набліжаецца да літаральнага тлумачэння: беларусы супраць вайны. І не толькі на сваёй зямлі, а супраць вайны ўвогуле. Пра гэта выказваюцца ўсе бакі, адрозненне ў тым, хто крывіць душой, а хто не. На шчасце, не сустракала сярод знаёмых мне людзей тых, хто выступае ЗА ваенныя дзеянні. І тут міралюбівасць і памяркоўнасць беларусаў – гэта надзейны шчыт, у тым ліку і псіхалагічны. Усведамленне татальнай салідарнасці ў непрыняцці гвалту – гэта і ёсць завяршальнае звяно ў цэлым ланцужку заканамернасцяў, якія пачаліся ў 2020, працягнуліся ў 2022 і назаўсёды, праз боль і пакуты, зрабілі нас крыху іншымі людзьмі.

*Анжаліка Свістунова*

## «МЫ» ВЫЙДЗЕМ, А «ЯНЫ» ЗАСТАНУЦЦА ТУТ НАЗАЎСЁДЫ»

28 лютага па ўсёй Беларусі пракацілася хваля антываенных акцый. Можна меркаваць, стратэгія сілавікоў палягала ў тэрміновым арышце тых, хто фіксуе акцыі на фота ці відэа -- таму візуальнага матэрыялу свет пабачыў няшмат. Праваабаронцы паведамляюць пра больш, чым 61 затрыманага, але на колькі поўная гэтая лічба казаць складана: у атмасфэры страху людзі баяцца распавядаць пра затрыманні. Умовы ўтрымання ў ізалятарах па-ранейшаму застаюцца нялюдскімі, людзей наўпрост катуюць.

Прыводзім маналог дзяўчыны, якую схапіў АМАП ля Чыгуначнага вакзала ў Менску, далей яе чакаў суд, 15 содняў на Акрэсціна і Жодзіна:

«Стаім тварам у сцяну, рукі за спінай. Я не ведаю, колькі нас дакладна – глядзець па баках забаронена. Тут толькі жанчыны – куды павялі хлопцаў, я не бачыла. Мы тры дні спалі без матрацаў у перапоўненых камерах, кагосьці кармілі толькі снеданнем – далей як хочаш, на змену вопраткі, чыстку зубоў і астатнюю гігіену таксама можна было забыцца. Чакаем, пакуль нас распрануць, агледзяць і размяркуюць па камерах – каб мы не сумавалі, надрываецца радыё. Беларускія жанчыны – найлепшыя ў свеце, кажуць там. Куда смотришь, с**а, глаза лишние? Самыя прыгожыя, пяшчотныя і разумныя. Молчать, б**, в камере наговоритесь н***й. Мы іх бясконца шануем, нашых цудоўных беларускіх жанчын. Руки за спину, с**а, кому сказал? Давайце разам павіншуем нашых мілых дам з надыходзячым святам вясны і прыгажосці. Дома, б**, надо было сидеть, х**и вы туда полезли. Прыміце, калі ласка, музычны падарунак.

Нас трыццаць тры жанчыны ў камеры на дзесяць чалавек. Ці трыццаць дзве – першыя два дні самі не можам падлічыць нашую колькасць, кожны раз атрымліваюцца розныя лічбы. Спрабуем рознымі спосабамі: спачатку адна лічыць, астатнія заміраюць там, дзе стаялі ці сядзелі. Потым мяняем тактыку – па чарзе разлічваемся на першая-другая-трыццаць другая. Ці трыццаць трэцяя? Зноў заблыталіся. «Сколько вас?» – пытаюць кожны раз, калі прыносяць ежу. Абіраем большую лічбу, каб, калі што, засталася лішняя порцыя: «Трыццаць тры». У адказ шчырае і нязменнае: «Б**...». Нам смешна: хіба не яны адказныя за нашую колькасць?

Спім спачатку па чарзе, але хутка разумеем, што гэта немагчыма. Тады выпрацоўваем сістэму: дваццаць чалавек на жорсткіх жалезных нарах па двое, астатнія – на падлозе. Я сплю пад сталом, і гэта ледзь не найлепшае месца – утульна і спіна не баліць, адзінае што – халодна. Потым я даведаюся, што сяброўка, якая засталася на Акрэсціна на ўвесь тэрмін, спала ў тумбачцы – іх было дваццаць сем чалавек у камеры на шэсць. Спаць цяжка – бо заўсёды гарыць святло, за вокнамі гаўкаюць службовыя сабакі, а супрацоўнікі за дзвярыма смяюцца і размаўляюць, слухаюць музыку ці здзекваюцца з людзей у суседніх камерах (часам гэта адбываецца адначасова). Мы ўжо ведаем, што там хлопцы – да іх ставяцца значна горш, чым да нас. Як ніколі адчуваем актуальнасць пачутага ў першы дзень па радыё: жанчын у Беларусі шануюць. Нас, прынамсі, не б'юць.

У адну з начэй спрабую заснуць, калі раптам аднослную цішыню раздзіраюць мужчынскія крыкі. Не магу адсачыць, колькі яны працягваюцца – адчуванне часу згубілася яшчэ ў першыя дні. Дзяўчыны, чые хлопцы зараз знаходзяцца за сценкай ад нас, адразу зрываюцца да дзвery – там больш шанцаў пачуць, ці гэта твой родны голас зараз не можа стрымацца ад болю. Мы разумеем, што чалавеку ў суседняй камеры вельмі кепска – штосьці са здароўем. Мы ўжо ведаем, што на своечасовую медычную дапамогу тут разлічваць не даводзіцца – хуткую ці нават фельчара для нашых сукамерніц мы дабіваемся па некалькі гадзін, калі не дзён. Супрацоўнікі выводзяць чалавека, які працягвае крычаць ад болю, у калідор. Что, стоять не можешь? Так ползи, б**. Я ляжу і сціскаю зубы. Потым усё сціхае – я намагаюся спадзявацца, што яму далі хоць нейкія таблеткі ці вывезлі ў бальніцу. На сваё месца на падлозе побач са мной вяртаецца дзяўчына, чый хлопец таксама тут – гэта яна ўвесь гэты час сядзела ля дзвярэй. Я не ведаю, што ёй сказаць.

Мы ўвесь час займаемся падлікамі. Нас трыццаць тры (ці дзве?), камера прыкладна васямнаццаць метраў, паміж самай малодшай і старэйшай з нас – пяцьдзясят гадоў, снеданне было прыкладна тры гадзіны таму, значыць зараз – прыкладна дзявятая раніцы. Мы трымаемся добра, ладзім лекцыі на розныя тэмы, заняткі па трох замежных мовах для ўсіх жадаючых, псіхалагічныя практыкаванні і дыхальную гімнастыку. Спяваем песні – як потым даведаемся, нас чуюць у суседніх камерах. Калі вас трыццаць тры (трыццаць дзве?) у невялікай замкнутай прасторы, думаць аб сваім немагчыма. Адзіны спосаб сфармуляваць думку – прамовіць яе. І мы размаўляем: пра тое, што з намі адбываецца за кратамі і на волі, пра жыццё «да» і «пасля». Размовы час ад часу перабіваюцца вонкавым светам з яго абразамі і здзекамі, трывожна заміраюць на хвіліну – і ўпарта працягваюцца. Усё часцей гучыць формула: «мы адсюль выйдзем, а яны застануцца». Мне падабаецца такая перакананасць. Я ведаю, што ўсе «мы» калі-небудзь выйдзем. А «яны» – дзе б не былі фізічна – застануцца тут назаўсёды».

## «НЕ ТРЭБА ТАК...»

Раніцай 24 лютага я ледзь прадрала вочы, але мусіла ўстаць: у шэсць пачыналася мая змена на стужцы навін. Муж яшчэ спаў: мы калегі, ён учора працаваў дапазна. Пайшла на кухню, паставіла чайнік, уключыла інтэрнэт на тэлефоне і праз некалькі секунд атрымліваю званок ад начальніка. Пакуль ішло злучэнне, паспела пракруціць у галаве ўсякае: мне перапаставілі змены? я недзе накасячыла? нехта захварэў?

- Эээ... Прывет.

- Прывет, так, тэрмінова... Пачакай. Ты нічога не ведаеш, так?

- Эм, не, а што такое?

- Рускія напалі. Бамбяць Кіеў. Тэрмінова будзі мужа, хай мне перазвоніць.

Так пачалося тое, што перавярнула ўсё наша жыццё. Як і жыццё сотняў мільёнаў іншых людзей.

Мы былі ў Львове. Спачатку здавалася, там мы ў бяспецы. Уся наша каманда пачала эвакуацыю з Украіны, але мы вельмі не хацелі з'язджаць. Здавалася: ды не будуць яны страляць і па Львове, ды і лепш быць у цэнтры падзей, чым сядзець недзе за мяжой і пакутаваць ад пачуцця віны праз тое, што ты збег і нічым не можаш дапамагчы.

Цягам дня, па меры таго як мы бачылі, што рускія б'юць далёка не толькі па цывільных аб'ектах, наша меркаванне пра "бяспечны Львоў" патроху змянялася. Ды і кіраўніцтва вельмі прасіла з'язджаць, каб спакойна працягваць нашу працу з бяспечнага месца.

На наступную раніцу мы ўсё ж, пасля доўгіх абмеркаванняў, крыкаў і слёз, пачалі зборы. Муж пайшоў за "зялёнай картай" на машыну - непадалёк ад дома быў кіёск страхавой кампаніі. Я складала рэчы, глядзела на кватэру, на краявід за акном, які стаў такім родным, і плакала. "Можа, усё ж не паедзем, я вельмі гэтага не хачу. Нічога з намі тут не здарыцца. Не ўяўляю, як мы будзем жыць недзе яшчэ. Давай застанемся", - збіралася сказаць я мужу, калі ён вернецца.

Ён вярнуўся даволі хутка. Цяжка дыхаючы і кульгаючы.

- Не атрымаецца нам зрабіць "зялёную карту", - кажа.

- Ну няхай, але, што з табой? - спалохалася я.

- А нічога, - змрочна адказаў ён і пасля паўзы дадаў: - Ад****лі,

Расповед з яго я ледзь выцягнула. Аказалася, ён зайшоў у кіёск і спытаў у страхаўшчыка, ці можна зрабіць "зялёную карту" на машыну на неўкраінскіх нумарах.

"Ну ўвогуле, здаецца, не робіцца, - адказаў той спакойна, - а што за машына-та, тэхпашпарт ёсць?".

Муж дастаў дакументы. Як толькі страхаўшчык убачыў, што яны беларускія, то змяніўся з твару, ускочыў, закрычаў "забойца", "акупант", "каб ты здох", накінуўся на мужа, нанёс яму некалькі ўдараў і выкінуў з кіёска на вуліцу так, што муж упаў. Вось такая была "размова".

Так я зразумела, што у гэтым горадзе, які стаў такім родным, нам больш не рады. І рызыку для жыцця ствараюць не толькі расійскія ракеты. Усведамляць упершыню ў жыцці тое, што цябе ненавідзяць толькі за твой пашпарт, было страшна і горка. Вагацца, ці варта з'язджаць, больш не выпадала.

Ужо пасля я бачыла шмат падобных гісторый ад знаёмых і незнаёмых людзей. Адных беларусаў ва Украіне выкінулі з жытла, другім адмовілі ў абслугоўванні, трэціх аблаялі. Тое самае за мяжой - у Польшчы, Германії і іншых краінах. З агрэсіяй і дыскрымінацыяй кожны раз сутыкаліся тыя, хто ўсім сэрцам падтрымлівае Украіну, хто дапамагае ёй як валанцёр, хто заўжды змагаўся з рэжымам Лукашэнкі, які дазволіў выкарыстаць Беларусь як плацдарм для войскаў РФ.

Але я ўбачыла і іншае: некаторыя беларусы нават ухвалялі гэтую агрэсію і дыскрымінацыю, лічачы яе за прынцыповасць украінцаў, кажучы, што яны маюць на гэта права, ускладаючы на сябе віну.

Не трэба так. Не трэба садзейнічаць укараненню гэтай нянавісці супраць беларускага народа. Ні да чаго добрага гэта не прывядзе, у тым ліку для нашых дзяцей.

Увесь гэты хейт у наш бок часцей за ўсё мае прычынай тое, што гэтыя людзі не ведаюць нічога пра Беларусь і не разумеюць, праз што мы прайшлі. Значыць, трэба расказваць, тлумачыць, адстойваць сябе. Калі вас хаця б не б'юць, то магчымасць гаварыць ёсць заўсёды, і яе трэба выкарыстоўваць.

*Вольга (імя зmененае), журналістка беларускага медыя.*

ГРУЗІЯ

...

Праз паўтары гадзіны як мы ў Тбілісі, нарабіўшы чырвоным фламастарам бел-чырвона-белых налепачак, мы паехалі глядзець наша будучае жытло.

...

Пытаюся гаспадара кватэры:
- Прабачце, як ваша імя?
- Ніка! Ко-ба. Ко-ба, ну! Как Сталіна!

...

Я падлічыла, што на сярэдні грузінскі заробак (які дакладна не адпавядае рэчаіснасці) можна набыць каля 300-350 хачапуры ці 400-450 хінкалі, што не блага.

...

11 прапушчаных выклікаў ад Кобы
– Прывітанне! Прабачце, толькі што набыла тэлефонныя карткі, не магла вам патэліць
– Оах! Я так за вас перажываў! Думаў, што з вамі нешта здарылася! <...нешта па-грузінску...> Думаў ужо прыехаць да вас....

...

Звычайны тбіліскі ранак (пакуль нас па шчокаламату не заваліла снегам):
У адной руцэ хачапуры, загорнутыя ў паперу, на шыі вісіць адзін ключ ад дома. У пякарні частуем грузінскага дзядзьку, які не дамовіўся з пекарам палучыць адзін задарма, шукаем у кішэні пару лары для дзядзькі акардэаніста, якога дарэчы бачыў у грузінскім тык-току, вітаемся з грузінскімі ЖКГ працаўнікамі, якія няспешна разрылі цамам увесь падворак, трасемся ў ліфце і молімся, дом, кава, сонца і горы ў ванне. Добрай раніцы.

...

Ва ўсякай незразумелай сітуацыі – абдымай тбіліскіх сабакаў.

Наста Кветкава

## «ТАК Я ЎБАЧЫЛА ЗА ФОРМАЙ І ЗБРОЯЙ ЧАЛАВЕКА – ЛЕДЗЬ НЕ ЎПЕРШЫНЮ Ў ЖЫЦЦІ»

Вайна ва Украіне, па маіх назіраннях, для шмат каго стала нечаканай – не ў маім атачэнні, але ўсе ж. Мне сапраўды пашанцавала перахвалявацца за эскалацыю канфлікту яшчэ за два тыдні да 24 лютага, і з пачаткам поўнамаштабнага ўварвання я сціснула зубы і працягнула працаваць. Намаганне зразумець агульны стан і настрой беларускай супольнасці праз сацыяльныя сеткі (іншай магчымасці не было) заняло ўвесь мой час і забірала ўсе сілы. На аналіз сваіх пачуццяў не заставалася рэсурсаў, ды й, напэўна, я баялася выявіць адчай, які б перашкаджаў узяць сябе ў рукі. Я адчувала сябе назіральніцай збоку, бо знаходзілася ў свеце дыджыталізацыі.

Адчужэнне ад сваіх пачуццяў стала знікаць пасля выхадаў на вуліцу – падчас прагулянкі параўнанне горада мірнага і горада ў ваенным становішчы робіцца непазбежным. Не ўбяжыш і ад эмоцый, бо перад вачыма не чужыя каментары і бясконцыя навіны з фронту – перад вачыма жыццё як яно есць, і я з ім тэт-а-тэт.

Амаль пустыя вуліцы, мяхі з пяском і шыны як барыкады, і людзі, людзі з аўтаматамі. Я бачыла іх ужо – мая Беларусь 2020-21 жыве ўва мне. З пераездам я заўважыла, што існаванне майго светаўспрымання ў беларускім спектры, дзе ўсе так проста і машынальна падзяляецца на чорнае і белае, перастае быць актуальным. Гэты спосаб мыслення ўжо не пасаваў жыццю ва Украіне, але мне здавалася, што такім чынам я часткова застаюся ў беларускім кантэксце.

Я скурай адчувала, што ў новай краіне ўсё зусім іначай – яна шматвектарная, людзі ў ёй вольна дыхаюць і выказваюцца, але ў розны такт. Я хацела даследаваць гэта, але не рабіцца часткай – сумавала па Радзіме. Я наўмысна блакавала пачуцце ўтульнасці, якое давала мне Украіна, каб захаваць тоеснасць дому і Беларусі.

Аднак туга і адрынанне рэальнасці сапраўды перашкаджаюць адчуваць і аналізаваць тут і зараз, а для выжывання падчас вайны гэта неабходна. Мяне канчаткова выдзернула разуменне, што я не баюся больш іх – людзей з аўтаматамі, людзей у форме. З вайной усе перагортваецца з ног да галавы, і першай такой вайной у маім жыцці стала барацьба з рэжымам. Пасля яе пачатку я не адчувала больш антыпатыі да працаўнікоў унутраных органаў – я іх люта ненавідзела.

Другая здарылася 24 лютага. Канешне, пачалася яна нашмат раней, але ў маёй свядомасці так моцна адлюстравалася толькі зараз. І вось я зноў бачу на пустых вуліцах мужчынаў, сілуэты якіх яшчэ тыдзень таму даравалі мне адчуванне небяспекі і хваляванне. Здаецца, мне непрыемна было, нават калі іх погляд коўзаў па мне. Цяпер усе не так – я нават рада іх бачыць. Хіба гэта мае словы і думкі? Вось яны ходзяць па вуліцы, такія важныя (ад пачуцця сваёй важнасці падчас вайны мужчыны квітнеюць), а мне хочацца вітацца з імі, хочацца падтрымліваць.

Я ніколі, ніколі дагэтуль не адчувала падзяку, што мяне абараняюць. Не сімпатызавала вайскоўцам. Не лічыла вайсковую справу годным заняткам для годнага чалавека. Прызначэнне вайскоўцаў у Беларусі не было для мяне ні відавочным, ні аргументаваным, кожны з іх быў для мяне як на адзін твар, і ўсе яны былі брыдкія.

Ва Украіне я нарэшце зразумела, чым займаюцца гэтыя людзі, якія яны бываюць. Вось афіцэр, а ўчора ён быў маркетолаг, які любіць піць каву і хадзіць у барбершоп. Ён прымае сваю новую справу з ганарросцю, бо ў яго ёсць мэта. Напэўна, асэнсаванне ў вачах мужчынаў у форме – навошта ім гэтыя бронекамізэлькі і аўтаматы, дае мне адчуванне бяспекі і камфорту ад іх прысутнасці. Яны не будуць страляць у людзей, яны будуць абараняць нас ад пачвараў.

Так я ўбачыла за формай і зброяй чалавека – ледзь не ўпершыню ў жыцці. Цяпер акрамя пачуцця нянавісці з'явіўся новы спектр эмоцый – у балаклаве можа быць асоба. Гэта дзіўна і прыемна, і ўсе яшчэ крыху цяжкавата ўсвядоміць. Але жыццё ва мне трывае нават падчас вайны, і нянавісць нават зараз не захлынае мае сэрца цалкам. А значыць, яны ўсе яшчэ не перамаглі.

*Арына Коршунава*



## БАРАЦЬБА З ДЫКТАТУРАЙ ПРАЗ КЛОПАТ АБ СВАІМ ГОРАДЗЕ

Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі ў 2020 годзеператварылі краіну ў сапраўды дыктатарскую рэспубліку. Вядома, так было амаль адразу з прыходам да ўлады Лукашэнкі, але не ўсе людзі маглі гэта зразумець. Аднак з пачаткам масавых рэпрэсій праблема аўтарытарнай дыктатуры паўстала ў вачах многіх жыхароў Беларусі і свету.

Многія людзі змагаюцца з крывавым рэжымам самымі рознымі метадамі. Адзін з іх даволі спецыфічны, але ў той жа час вельмі эфектыўны – падача заяў праз спецыяльны рэспубліканскі сэрвіс 115.бел.

**Што такое 115.бел і як працуе гэтая платформа?**

«Мая Рэспубліка 115.бел» – беларускі інтэрнэт-партал, які існуе ў выглядзе вэб-сайта і мабільнага дадатку. Ён працуе як платформа для адпраўкі запытаў, якія тычацца жыллёва-камунальнай гаспадаркі і гарадской інфраструктуры. Акрамя таго, сэрвіс таксама існуе ў выглядзе тэлефоннай лініі: набраўшы нумар 115, людзі могуць звярнуцца па паслугу або паскардзіцца на наяўнасць праблемы.

Цікава, што першапачаткова сэрвіс называўся «Мой горад 115.бел», паколькі даваў магчымасць падаць заяўку толькі ў Менску. Аднак пазней стала відавочна, што такая платформа вельмі эфектыўна ў змене гарадскога асяроддзя, таму яе праца была пашырана на ўсю краіну.

Схема працы партала наступная: карыстальнік рэгіструецца на сайце або ў дадатку, размяшчае запыт, які пасля мадэрацыі адпраўляецца ў падраздзяленні гарвыканкама ці гарадскія службы для выканання. Пазней праз платформу можна праверыць статус апрацоўкі запыту і вынік выкананай працы ў фармаце выявы «да – пасля».

**Як служба дапамагае ў барацьбе з рэжымам?**

Як мы памятаем, пасля сфальсіфікаваных прэзідэнцкіх выбараў 2020 года людзі пачалі актыўна пратэставаць рознымі спосабамі, у тым ліку «партызанскімі»: у гарадах, пасёлках і сёлах сталі актыўна з'яўляцца пратэсныя налепкі, улёткі, графіці, на дрэвы і платы прымацоўваліся бел-чырвона-белыя стужкі і г.д. Вядома, рэжыму ўсё гэта не падабаецца, таму ён актыўна з гэтым змагаецца. Па гэты дзень гарадскія службы актыўна займаюцца разразаннем стужачак, выдаленнем улётак і налепак і зафарбоўваннем графіці, а раней, як вядома, да іх нават далучыліся міліцыя і праўладныя дзеячы (тут напрошваецца трагічная гісторыя забойства Рамана Бандарэнкі).

Пасля гэтага людзі вырашылі, што калі работнікам жыллёва-камунальнай гаспадаркі больш няма чым заняцца, а дзяржаве больш няма куды марнаваць грошы, то пара заняць іх рэальнымі праблемамі. Такім чынам, у сістэме 115.бел стала з'яўляцца ўсё больш і больш запытаў, беларускія гарады і пасёлкі пачалі рабіцца лепш, і дзяржава стала губляць на гэта пэўную суму грошай.

Вядома, не усе заяўкі атрымліваюць адэкватны адказ. У асноўным гэта звязана з нежаданнем дзяржаўных органаў штосьці рабіць, а таксама з высокім узроўнем карупцыі: чым больш камунальная служба будзе марнаваць грошай на вырашэнне надзённых праблем, тым менш кіраўнік_ца гэтай камунальнай службы будзе красці ў сваю кішэню.

Бывае і так, што камунальныя службы пачынаюць помсціць за велізарную колькасць запытаў. Я сутыкнулася з гэтым асабіста: у маім доме ў Мінску і агулам ува ўсім раёне шмат праблем, з якімі я актыўна змагалася да сваёй тэрміновай эміграцыі з краіны. А паколькі платформа 115.бел не ананімная, мае даныя, уключаючы адрас, могуць быць лёгка знойдзеныя кіраўнікамі гэтых камунальных службаў. Такім чынам, увесну 2021 года супрацоўніца аднаго з аддзелаў раённай камунальнай службы прыйшла да мяне дадому і пачала правяраць калідор ля ўваходу ў маю кватэру, пасля чаго сказала, што ён «захламлены» і што яго неабходна пачысціць, інакш нам трэба сплаціць штраф. Было відавочна, што жанчына проста хацела прымусіць мяне змоўкнуць, бо з такой «праверкай» прыйшлі толькі да мяне.

Але ў цэлым негатыўных гісторый вельмі мала. Здаралася, што я доўга змагалася з нейкай праблемай, мне давалі недарэчныя адказы, але праз некаторы час усё вырашалася. Аднак большасць праблем, асабліва дробных, вырашаюцца неадкладна.

Адна з даўніх праблем, з якой змагалася не толькі я, але і мае суседзі ды суседкі, – гэта тратуар побач з аўтобусным прыпынкам у маім раёне. На працягу некалькіх гадоў ён перабываў у жахлівым стане: у некаторых месцах ён наўпрост адсутнічаў, у іншых быў зламаны і выглядаў небяспечна. Адна бабуля, сяброўка маёй сям'і, некалькі гадоў таму зламала ключыцу ў гэтым месцы, але, на жаль, яна не ведала, што на камунальныя службы лёгка можна падаць у суд, таму нікуды не звярталася.

Такім чынам, калі мы з маімі суседзямі зарэгістраваліся на платформе 115.бел, мы адразу ж пачалі актыўна рабіць запыты пра тратуар у гэтым месцы. Аднак спачатку нам давалі адказы, што камунальная служба раёна ўсё праверыла і прыйшла да высновы, што ўсё ў парадку. Мы пачалі адхіляць падобныя адказы, даючы ім нізкія адцэнкі. Пазней да праблемы падключыліся арганізацыі больш высокага ўзроўню, бо калі мясцовая жыллёва-камунальная гаспадарка не вырашае праблему, то падключаецца жыллёвае рамонтна-эксплуатацыйнае аб'яднанне цэлага раёна. Але, на жаль, там нам таксама давалі адказы накшталт «гэты рамонт будзе ўключаны ў далейшы план па добраўпарадкаванні раёна, але пакуль вам проста трэба пачакаць». З нашага боку да праблемы пачалі далучацца ўсё больш суседзяў і нават проста сяброў з іншых раёнаў і гарадоў. Усе яны таксама запаўнялі заяўкі на платформе 115.бел і скардзіліся на праблему.

У рэшце рэшт, «спам» у выглядзе запытаў надакучыў мясцовым камунальным службам, таму ў жніўні 2021 года яны нарэшце пачалі ўкладваць новы тратуар, а ўжо восенню мы пабачылі вынікі. Тым не менш я спадзяюся, што хутка нас чакаюць больш глабальныя вынікі, звязаныя не толькі з камунальнымі службамі, але з усёй дзяржавай агулам. А пакуль, як казала  Марыя Калеснікава, «мы будем долбить, долбить эту власть всеми законными средствами». Нават праз платформу 115.бел.

*Паліна Бурко*
*Актывістка Беларускіх Маладых Зялёных*



# „МЫ ЎСЁ АДНО!"

**Гутарка з Дар'ей Рублеўскай – супрацоўніцай праваабарончага цэнта "Вясна", сакратаркай па знешніх сувязях Задзіночання беларускіх студэнтаў.**

**Алесь Мінаў: Зараз маецца вялізная колькасць арганізацый, ініцыятыў, нават партый, усе працуюць (ці намагаюцца працаваць) для Беларусі і беларускай справы ў розных аспектах. У чым адметнасць вашае арганізацыі, якая на сёння галоўная задача?**

**Дар'я Рублеўская:** Варта адзначыць, што Задзіночанне беларускіх студэнтаў – гэта найстарэйшая, не толькі студэнцкая, але і грамадская, арганізацыя ў Беларусі, якая паўстала яшчэ ў 1988 годзе супраць тагачаснага камуністычнага рэжыму. Яна распачыналася ўсяго з трох універсітэтаў, актывісты якіх выступалі супраць абавязковага вывучэння гісторыі КПСС. Мне здаецца, гэта даволі добра перагукаецца з цяперашнім часам – такі віток гісторыі.
Зараз ЗБС – з'яднанне 16 універсітэтаў (незалежных студэнцкіх супольнасцяў).
Цяпер, можна сказаць, пяць кітоў, на якіх грунтуецца наша дзейнасць:

1) падтрымка студэнцкіх супольнасцяў. Сёння гэта і стачкамы ў нашым складзе, важна іх развіваць, забяспечваць бяспеку.
2) міжнародная адвакацыя: прадстаўленне інтарэсаў беларускага студэнцтва на міжнародных пляцоўках, камунікацыя на конт стыпендый, стажыровак.
3) адвакацыя на месцах непасрэдна, абарона, на колькі гэта магчыма сёння, правоў студэнцтва.
4) дапамога палітычным зняволеным. Па нашых звестках: больш як 60 чалавек са студэнцкага асяроддзя зараз у зняволенні (пакуль не ўсе з іх прызнаныя палітвязнямі).
5) юрыдычная дапамога: і рэпрэсаваным, і тым, хто з'ехаў.

**АМ: Апошнім часам і праз пандэмію, і праз бяспеку большасць ініцыятыў перайшлі ў інтэрнэт і віртуальную прастору. На колькі можна сёння казаць пра дзейнасць афлайн: сустрэчы, акцыі ці нешта падобнае?**

**ДР:** Складанасць у тым, што мы моцна раскіданыя па свеце цяпер: Беларусь, у першую чаргу, Румынія, Чэхія, Нямеччына, Грузія, Прыбалтыка, Польшча – цяжка рабіць нешта ў афлайне ў такіх умовах. Але пры гэтым у Беларусі нашы актывісты сустракаюцца, абмяркоўваюць важныя пытанні, дзеляцца досведам. У Польшчы, Літве сістэматычна ладзяцца сустрэчы для напісання паштовак палітвязням. Летам робяцца выезды на стратэгічныя планаванні, школы.
На дзень судзілішча па справе студэнтаў ЗБСаўцы ў Літве зрабілі акцыю насупраць амбасады, у Польшчы таксама акцыя ладзілася.

**АМ: Па зразумелых прычынах большасць актывістаў цяпер па-за межамі краіны, усё больш складана падтрымліваць сувязі, Беларусь робіцца ўсё больш і больш закрытай. А час ідзе. Ці адчуваецца нарастаючая адарванасць асноўнага актыву ад грамадства, ад унутрыбеларускай павесткі?**

**ДР:** У нас пэўна няма: атрымалася ўладкаваць файную сувязь паміж актывістамі за мяжой і ўнутры краіны. Людзі ўнутры Беларусі вельмі дапамагаюць нам разумець абстаноўку там, даюць парады на конт акцый і мерапрыемстваў: што больш важна, а чаго рабіць не варта. Таму адарванасці дакладна няма, застаюцца актывы і ў Беларусі, іх роля не менш значная.

**АМ: Так разумею: у краіне застаюцца многія актывісты ЗБС, але ж і рэпрэсіўны апарат не збаўляе моц. Якія вы можаце даць парады па бяспецы для актыўных людзей у Беларусі?**

**ДР:** У нас ёсць цэлыя пратаколы бяспекі для сяброў арганізацыі, але ж імі публічна дзяліцца не варта. З асноўных парадаў: па-першае, пра ўласную бяспеку лепш не падбае ніхто, апроч вас. Нельга пра гэта забываць! Па-другое, двухфактарная абарона на ўсіх прыладах, VPN, запасны тэлефон – гэта не жарты. Гэта сапраўды ратуе.
Па-трэцяе, раю знайсці "храніцеля" – чалавека, які знаходзіцца ў бяспецы (лепш за мяжой), які будзе час ад часу мяняць паролі, захоўваць, ведаць пра вашае знаходжанне, мець магчымасць паведаміць пра затрыманне.
І, галоўнае, – выдаляць паведамлені, фотаздымкі. Для многіх прыгожыя фотачкі са жніўня 2020 ці іншых акцый – прыемныя і каштоўныя ўспаміны. Але ў аўтарытарным рэжыме – гэта крытычна небяспечна!

**АМ: На жаль, усё часцей можна пабачыць негатыўныя выказванні, прэтэнзіі з абодвух бакоў: "Вы з'ехалі з краіны, дык маўчыце, не дыктуйце, як нам лепш быць", альбо "Той, хто сёння застаецца ў Беларусі занадта рызыкуе, плоціць падаткі сістэме і ўвогуле мала робіць..." З чаго, на вашу думку, сыходзяць такія пасылы і як пазбегнуць росту ўзаемных абвінавачванняў, расколу між людзьмі?**

**ДР:** Я сапраўды бачыла падобныя наратывы, спробы вызначыць у твітары хто большы беларус: хто з'ехаў ці хто застаўся. Але літаральна нядаўна ў мяне была сустрэча з тымі, хто застаецца ў Беларусі і яны казалі адваротнае, маўляў, добра, што вы ў бяспецы, і выдатна, што вы дапамагаеце. Такі пасыл быў, і мне гэта моцна адгукнулася ўнутры. Вызначальны фактар – праца на Беларусь.
Спрэчкі, мяркую, негатыў – гэта ўсё праз унутраны боль. Людзі стаміліся злавацца на адно вялікае зло, якое іх не чуе. Таму хочацца закрануць кагосьці, хто можа эмацыйна на гэта адказаць. Паспрабаваць выпусціць пару. Таму і сыплюцца гэтыя абвінавачванні.

**АМ: Падзі 2020 года, безумоўна, карэнным чынам змянілі нашае грамадства, вялізная колькасць людзей пачала праяўляць цікаўнасць да сацыяльнага, палітычнага жыцця, шукаць спробы рэалізаваць сябе як грамадзян. Ці адчувальны ў вашай арганізацыі гэты ўздым, заўважылі рост?**

**ДР:** Відавочна, арганізацыя вельмі моцна пашырылася. Дзякуючы ро-



сту самасвядомасці грамадскай, досведу самаарганізацыі. Людзі пачалі разумець, што варта хоць нешта рабіць. Многія, як я ўжо казала, бачаць адно зло. А калі разумеюць, што зло не толькі ў адзінай асобе, то ўзрастае цікавасць і да іншых тэмаў – якасны рост. Гэта сапраўды цікавы працэс.

**АМ: Раней актывістаў было далёка не так шмат, можна сказаць, зусім няшмат. Але ўсе яны вызначаліся рысай датычнасці да беларускай ідэі, інтарэсам да мовы, культуры, былі носьбітамі беларускасці. Падаецца, людзі новай хвалі першаснай бачаць ідэю дэмакратычных каштоўнасцяў, а не свядомасці нацыянальнай. На колькі ім блізкія каштоўнасці папярэдніх пакаленняў?**

**ДР:** Давайце паглядзім на яскравейшы прыклад: Святлана Ціханоўская, якая абвесціла сябе лідарам нашага супраціву [па звестках платформы "Голас", Святлану Ціханоўскую падтрымала большасць грамадзян падчас выбараў 2020 г. – прым. Рэд.]. Колькі яна размаўляе па-беларуску? Колькі разоў яна ўзгадвае прынцыповыя моманты з нашай гісторыі ці культуры?
Дзякуй, канешне, за кветкі да Кастуся Каліноўскага, але ў той жа час яе прадстаўнічка па адукацыі і навуцы на Начы расстраляных паэтаў прамаўляе па-руску – на Начы расстраляных паэтаў! Як па мне, гэта абсалютная ганьба.
Таму сярод новай хвалі актывістаў, актывістак, палітычных лідараў і лідарак не стае, на маю персанальную думку, разважанняў пра штосьці большае. Менавіта пра нацыянальную ідэю, свой культурны код, ідэнтычнасць. Гэтага сапраўды няма. Я не магу зараз узгадаць нейкіх новых лідараў, што размаўляюць па-беларуску. Хіба Павел Латушка, але, як разумею, таксама не тое, каб заўсёды.
Таму сапраўды не стае. Але, думаю, пакуль яшчэ мы можам пра гэта не думаць: спярша рэвалюцыя, а потым мова і ўсё астатняе. Але гэта ў корні няверны падыход.

**АМ: Ці магчыма паўплываць на гэту тэндэнцыю?**

**ДР:** Я не ўпэўнена. Амаль два гады прайшло. Не толькі мы намагаліся гутарыць са многімі лідарамі меркаванняў, што трэба прасоўваць беларускую мову, трэба казаць пра культуру, гутарыць пра ідэнтычнасць, што трэба так ці іначай будаваць сваю нацыянальную ідэю. Але пры гэтым атрымліваем тое, што атрымліваем.
Ну дачакаемся мы рэвалюцыі, а потым што? Пабудова дэмакратыі, новыя выбары і гэтак далей. І да мовы, калі прама зараз, проста цяпер не паставіцца сур'ёзна, не выцягнуць у якасці прыярытэту, то нічога не выйдзе. Нічога.
Як бы гэта кепска ні гучала, але няўжо нават вайна не стала (альбо не стане) нагодай для таго, каб людзі перайходзілі на беларускую мову? Каб, як мінімум, сябе адасабляць ад гэтага рускага свету? Нават каналы, усе сацыяльныя сеткі Беларускага антываеннага руху, калі памятаеце, на якой мове?
Я даволі крытычная ў гэтых пытаннях, бо я націўная спікерка, для мяне гэта важна. Але калі я задаю гэтыя пытанні, напрыклад: "Чаму Ціханоўская робіць прэс-канферэнцыю на конт рэферэндуму па-расейску?" Адказ, што літоўскія журналісты не зразумеюць, а перакладчыкаў не знайшлі. І гэта сур'ёзная гутарка пра нашу незалежнасць, ідэнтычнасць? На мяне, гэта наўпрост непавага.

**АМ: Вы ўзнялі тэму вайны. Цяпер пэўна нерэальна ўсвядоміць яшчэ маштаб уплыву яе на абсалютна ўсе працэсы ў нашым жыцці. Але на сённяя, якія вы бачыце асноўныя пераломы і, магчыма, ёсць у гэтых жахлівых падзеях, нейкія моманты, якія ў перспектыве паўплываюць станоўча на беларускую справу?**

**ДР:** Па-першае, крытычныя моманты – гэта заўсёды кропкі росту. Прымаюцца альбо не прымаюцца стратэгічна важныя рашэнні, і пакуль я бачу, што ў нашым грамадстве не прымаюцца такія карэнныя рашэнні. Батальён Каліноўскага ў гэтай вайне – найлепшае, што ў нас ёсць. Гэта сапраўды нацыянальны гонар. Таксама валанцёры і валанцёркі. Але пры гэтым не адбываецца зруху па фазе. То-бок Ціханоўская ўсё яшчэ размаўляе з амбасадарам Украіны па-расейску аб тым, што беларусы не ёсць Лукашэнка. Мы ўсё адно вызначаем толькі супраціў, не кажам, што мы і хто.

**АМ: То-бок паветка хутчэй адмоўная выходзіць: мы кажам, што супраць, але не маем пазітыўнае павесткі – вось мы ёсць такія?**

**ДР:** Менавіта! Мы кажам, што мы не Лукашэнка, што супраць вайны, але пры гэтым маем агульную нявызначанасць нас як групы, нацыі. Праз брак добра акрэсленай ідэнтычнасці намі зараз вельмі лёгка маніпуляваць у тых жа сацсетках (калі, прыкладам, пішуць і прасоўваюць пасыл, што беларусы вінаватыя і фармуецца комплекс віны) і гэтак далей. Калі б мы ад самага пачатку працавалі над будовай нацыянальнага стрыжня, цяпер было б прасцей.

**АМ: У свой час над гэтым стрыжням у краінах, паняволеных СССР, займаліся народныя франты. У нашым выпадку, БНФ стварыў моцны падмурак напрыканцы стагоддзя, адрадзіў шмат з таго, што здавалася згубленым і вынішчаным. Ці бачыце вы сёння арганізацыі падобнага кшталту?**

**ДР:** Так, але праз тое, што гадамі і дзесяцігоддзямі і гісторыя, і мова, культура беларуская маргіналізаваліся прапагандай, то цяпер цяжка выходзіць на аўдыторыю, уздымаць гэтыя пытанні. Па адчуваннях, такія арганізацыі працуюць не з нуля, а з мінус дзесяці. Сюды я б аднесла і Годна, і Будзьма, Арт-сядзібу (што ўжо зачынілася), таксама і ЗБС, бо гэта сярод нашых каштоўнасцяў і накірункаў, Беларуская Рада культура – адзін з галоўных сённяшніх падмуркаў нашай культуры. Таксама СМІ. "Наша Ніва" даўно перастала быць проста СМІ, цяпер гэта нешта значна большае, адметнае для беларусаў і беларусак.

**АМ: Вернемся да першаснага: палітвязні. Людзі пакутуюць штохвілінна, ціск толькі нарастае. Ці застаецца гэта павестка актуальная ў сённяшніх варунках?**

**ДР:** Не застаецца. Не застаецца ў сілу розных прычынаў. Па-першае, унутраная самацэнзура: няёмка казаць пра нешта падчас вайны, як апроч вайны. Усё, што не вайна, падаецца не такім важным.
Па-другое, прабіцца скрозь гэтае інфаполе, дзе бамбяць марыупальскую радзільню, дзе на Кіеўскі Падол прылятаюць ракеты, складана. Да таго ж, ад беларускіх палітвязняў стаміліся. На жаль. Пастаянна пра іх кажам, колькасць павялічваецца… Людзі стаміліся ад эмпатыі, ад таго, што нічога не змяняецца. Пішаш-пішаш лісты – іх не перадаюць. Дапамагаеш-дамагаеш – чалавек не выходзіць. Стамляешся ад гэтага. Патрэбна вельмі шмат унутраных моцаў, вельмі шмат. Мае быць стрыжань, каб пастаянна ўздымаць гэтую тэму.

**АМ: Якая перспектыва?**

**ДР:** Мы пачнем пэўна з таго, з чаго пачыналі. У плане таго, што вязням будзем дапамагаць, але без разліку на асаблівую ўвагу з боку міжнароднае супольнасці. Надалей імі будзем займацца толькі мы сваімі сіламі ў першую чаргу.
Тут таксама ёсць прыхаваныя моманты: калі палітвязні выходзяць з асноўнага поля зроку, то ўзрастае верагоднасць таго, што пры перамовах яны наўпрост выпадуць – перастануць быць вызначальным фактарам, як гэта было ад пачатку рэвалюцыі. Маўляў, спярша вызваляйце палітвязняў, а толькі пасля гэтага мы з вамі гутарым, ці нават хаця б думаем аб тым, што мы з вамі гатовыя гутарыць. Але, памятаем, Макрон патэлефанаваў Лукашэнку і з наяўнасцю больш як тысячы палітвязняў.

**АМ: Гэта прыкра. Шмат цяпер прыкрага. Ці бачыце вы нейкі пазітыў у агляднальнай перспектыве?**

**ДР:** Я бачу новую хвалю ўздыму. Захапляюся людзьмі, якія насамрэч паслядоўныя ў сваёй пазіцыі. Тыя, хто казаў: "Мы лічым, што мірным шляхам нічога не вырашыцца", – зараз яны сапраўды бяруць зброю ў рукі, вучацца вайсковаму майстэрству і ідуць ваяваць за нашу агульную свабоду.
Спадзяюся, што на хвалі далейшага самаўдасканалення і самаўсведамлення сябе як беларусаў, мы прыйдзем да крытычнай неабходнасці адасабляць сябе ад рускамоўных людзей. Прыходзячы да беларускай мовы, пачнем і аналізаваць: а хто мы, а ў чым наша, беларуская, адметнасць, якая роля нам адведзена? Я прадчуваю, што такі зрух будзе.

**АМ: Актыўная частка беларускага грамадства ў краіне і беларусы эміграцыі – гэта дзве блізкія, але ўсё ж асобныя супольнасці ці гэта адзіная група?**

**ДР:** Я як прадстаўнічка грамадскай супольнасці скажу, што мы ўсё адно адно!
Мы – грамадзянская супольнасць Беларусі. Тут важная не тэрытарыяльнасць, а аб'ект нашай працы, нашых супольных намаганняў і высілкаў. Таму мы дакладна адно!









# "БОЖА, ДАПАМАЖЫ ЗАХАВАЦЬ РАЎНАВАГУ"

**Ільля Фаляжынскі – беларускі аўтар-выканаўца, мастак. Пражывае ў Варшаве. Прэзэнтаваў два альбомы: «Схавацца ў туман» (2016) і «Navobmacak». Зь 2020 году піша карціны. Больш работ можна знайсці ў сацыяльных сетках Ільлі.**

**1.**
**«НЕ ЗАПХНУЦЬ НАЗАД» (2021)**
Акрыл на палатне
20х20

У 2020 годзе беларускі народ абудзіўся ад сну і яго, як і тую зубную пасту, ва ўмоўны цюбік ня вярнуць, нават калі вельмі моцна пастарацца.

**2.**
**«БАСАНОЖ» (2021)**
Акрыл на палатне
25х35

Тут хочацца прыгадаць песьню з праэкту «Народны альбом» на словы Міхала Анемпадыстава, якому ў сакавіку магло б споўніцца 57 гадоў:
«...Я стаю на мяжы,
Я іду па нажы.
Божа, дапамажы
Захаваць раўнавагу.»
(Я, да жалю, ня пан)







**3.**
**«ТАМ, ДЕ ПАЛАЄ СВІТЛО» (2021)**
Акрыл на палатне
40х60

Аднойчы я выйшаў у халодны, доўгі і няўклюдны калідор, зачыніў за сабою дзьверы і апынуўся ў густой цемры. Толькі ў самым канцы калідора гарэў маленькі, але ясны прамень, які падказаў мне дарогу і адарыў спакоем. Асабліва ў сёньняшнія часы гвалту і адчаю нам нельга губляць надзеі і старацца рабіць усё, што ад нас залежыць, каб выратаваць бліжніх і сябе.

**4.**
**«СТРАХ СЯДЗІЦЬ У ТАБЕ» (2021)**
Акрыл, папера для акрылу
А4

У кожнага чалавека свае страхі ўнутры. Хоць гэта, напэўна, бывае няпроста, але ня варта дазваляць ім сябе адурманьваць, бо гэта можа прывесьці да непапраўных наступстваў.

**5 .**
**«САМАСЬЦЬ» (2022)**
Акрыл на палатне
50х61

Часта нашыя праблемы, якія падаюцца нечым звышважным і невырашальным, насамрэч такімі не зьяўляцца. А тое, з-за чаго мы штодня непакоімся, толькі пыл, за якім мы ня бачым сапраўдных сябе, схаваных надзейна ў глыбіні нас саміх. Як выбрацца з той пасткі – зусім іншае пытаньне.

**ПРА КАМПРАМІСНАСЦЬ У БЕСКАМПРАМІСНЫЯ ЧАСЫ**

Калі ў Менску забілі Рамана Бандарэнку, я напісаў быў верш, ён пачынаўся такім радком: «Кожная кропля мелася быць апошняй...». У той вечар, я хворы на ковід, шукаў па спісах сяброўку, якую прынялі ў нядзелю (у наступную нядзелю апынуўся там жа), і прыгадваў чамусь раніцу таго дня ў 2019 годзе, калі пачалі вараціць крыжы ў Курапатах. Тое адчуванне, што вось яна – кропка незвароту, што тут та мы скансаліднуемся і скончым гэта. Наіўна было. Потым такое адчуванне прыходзіла часцей і часцей, не безгрунтоўна. Цяпер бачым, што і забойства маладога хлопца пасярод сталіцы таксама не стала гэтай самай кропкай для грамадства. Але стала кропкай для многіх асабіста (ці гэтая трагедыя, ці сфальсіфікаваныя выбары, ці ракеты, што сёння ляцяць на Украіну). Кропкай поўнага непрыняцця рэжыму і сістэмы. Але ж як жыць, як працаваць – калі сістэма скрозь? На якія кампрамісы можна пайсці са сваім сумленнем і ці можна ўвогуле, дзе спыніцца?

На гэтую тэму пагутарыў з Генадзем Коршунавым – дацэнтам, кандыдатам сацыялагічных навук і былым дырэктарам Інстытута сацыялогіі.

**Алесь Мінаў: На колькі, на вашу думку, шырокая адказнасць за ўсе злачынствы, учыненыя рэжымам (і рэпрэсіі, і імаверны ўдзел у ваенных дзеяннях ва Украіне), не адна ж асоба за гэты ўвесь жах адказна? На колькі шырока – нават не з юрыдычнага пункту гледжання, а з лагічнага, маральнага – гэта адказнасць распаўсюджваецца?**

**Генадзь Коршунаў:** Гэта вельмі складанае пытанне: маецца безліч акалічнасцей. Безумоўна, будзе шмат поглядаў на гэтае пытанне. Ёсць людзі, якія кажуць, што на нас усіх ляжыць агульная вялікая адказнасць. Ёсць тыя, хто кажа, што адказнасць наша ў тым, што мы 20 год трывалі гэты рэжым, жылі з Лукашэнкам і ў пэўным сэнсе яго выгадавалі. Але тут хутчэй варта глядзець з нарматыўна-прававой пазіцыі на гэтае пытанне. Натуральна, адказ на яго мы будзем шукаць усёй краінай, усім народам яшчэ вельмі доўга. Будзе адбывацца нешта кшталту таго, што было ў Нямеччыне пасля 45-ага года. Выдатна Ганна Арэнт напісала пра тое, што найбольшую маральную адказнасць адчувалі менавіта тыя, хто рабіў усё, каб такога не адбылося.

**АМ: Калі спусціцца на больш пабытовы ўзровень. Мой асабісты прыклад: я працаваў настаўнікам. З аднога боку, працуючы ў сістэме, даводзілася рабіць пэўныя рэчы, што супярэчаць маральным каштоўнасцям (заклікі да ўдзелу ў БРСМ, выгляд плённае ідэалагічнае працы, удзел у суботніках і іншым), з іншага ж – навідавоку тая карысць ад кожнага сумленнага настаўніка. Мабыць, класная гадзіна на тэму важнасці прэзідэнта ў нашым грамадстве – прыймальны кампраміс, каб астатнія 20 гадзін на тыдзень даносіць іншае. Але чым вышэй узровень – тым вышэйшы кошт. Што можна сказаць пра ўмоўнага дырэктара школы (і на гэтай пасадзе можна прыносіць карысць, але ж якім коштам...)?**

**ГК:** Тут ужо маральныя шалі. З аднаго боку ўскладаецца тое, што нібыта ты абавязаны рабіць усё, бо ты ў сістэме, з іншага боку – магчымасць адказна рабіць непасрэдна сваю справу, прыносіць нейкую карысць і сваім падначаленым, і грамадству цалкам.

Напрыклад, у маім выпадку – была пасада дырэктара Інстытута сацыялогіі – было не тое, што лягчэй, але я прыйшоў на пасаду ў 2018 годзе, гэта быў час не тое каб палёгкі, але адсутнасці адчувальнага ціску. Вядома, былі размовы адносна таго, што «мы все государственные люди». Тады я нават не ўсведамляў гэты выраз сур'ёзна – зараз ён больш дакладна гучыць. Я ўсё жыццё працаваў навукоўцам: у першую чаргу даследчыкам, у другую – выкладчыкам. Нейк мне заўсёды шанцавала: атрымлівалася рабіць тую справу, якая мне падабалася, а адміністрацыйнай дурноты да мяне не даходзіла. Нават ва ўніверсітэце, калі трэба было чытаць нейкія «дурнаватыя» курсы, я іх перарабляў так, як лічыў патрэбным – чытаў так, каб было цікава, было не сорамна, карысна. Тады, у 2018 годзе, так рабіла большасць. На колькі ведаю, нават на ўзроўні міністэрстваў.

Але ўсё адно застаецца асноўная праблема: калі ты абіраеш меншае зло – ты ўсё адно абіраеш зло. Выйсці на гэтую праблему да 2020 года было даволі цяжка, бо да таго падавалася, што мы – адзінкі (хто аб нечым думае, намагаецца), падавалася, што большасць яна ўсё адно калі не за Лукашэнку, то прынамсі «застабілы». Але ў 2020 годзе мы пабачылі, што нязгодных з сітуацыяй вельмі шмат. Гэта ўзрушальнае адчуванне. Яно і вывела на свет той прыхаваны для многіх маральны выбар. І ўжо знаходзіцца ў той сістэме, якая робіць такія адкрытыя вычварэнствы, стала для шмат каго немагчыма.

**АМ: Ну і рост рэпрэсій, пэўна, прыводзіць да большай уцягнутасці кожнага ўнутры сістэмы...**

**ГК:** Лаяльнасць патрабуецца большая, так. Выходзіць, што з тактычнага пункту гледжання кіроўная вертыкаль узмацнілася. Бо сышлі тыя, хто як максімум быў супраць і як мінімум – вагаўся. Больш за тое, вычышчалі нават не толькі тых, хто сам нешта рабіў, або не выказваў неабходнага ўзроўню лаяльнасці, а і тых, у каго сваякі былі заўважаныя на мітынгах. Праз гэта сістэма стала больш трывалай і маналітнай. Але значна менш прафесійнай. Гэта было адчувальна яшчэ да вайны. А тое, што цяпер адбываецца з сістэмай, увогуле наштурхоўвае на паралелі з пасляфашысцкай Нямеччынай, калі вельмі складана вызначыць меру адказнасці. Ну вось, напрыклад, возьмем Беларускую чыгунку, якая возіць расейскіх вайскоўцаў, тэхніку, што забівае ўкраінцаў. Вось кіраўніцтва Беларускай чыгункі – яно адказнае? Зараз у мяне няма адказу на гэта пытанне. Ці ўзяць тых жа самых беларускіх памежнікаў, што прапусцілі войскі... Я спадзяюся, што ў свой час гэта будзе вялікае грамадскае абмеркаванне ў Беларусі: што адбылося і якая ў кожнага ў гэтым роля была. І ў тых, хто кажа: «А што ж такое? Мы ж нічога кепскага не робім – як і ўсе». Гэта мусіць быць вялікае асэнсаванне грамадскае.

**АМ: У сферы культуры тут найбольш яскравы прыклад – Купалаўцы, якія гучна выказаліся, прыгожа сышлі. Па факце на сёння мы маем годны калектыў, за які не сорамна, а з іншага боку – адсутнасць Купалаўскага тэатра, а з ім і магчымасці хоць нейкімі сродкамі выказвацца, даносіць, натхняць.**

**Ці гэта пайшло на карысць? Ці маюць рацыю тыя людзі, што кажуць, маўляў, трэба было любымі высілкамі захаваць тэатр, працягваць працу – пайсці на кампраміс дзеля высокай мэты?**

**ГК:** Па-першае, я б не казаў, што яны цалкам згубілі магчымасць даносіць сябе да гледача: ладзяцца імпрэзы, спектаклі, можна паглядзець у інтэрнэце. Іх учынак – гэта моцны ўчынак, яны зрабілі яго самі – гэта найгалоўнае. Кожны робіць свой выбар і мусіць несці за яго адказнасць. Гэта яшчэ адзін пераломны момант 2020 года, калі людзі пабачылі, што можна рабіць выбар, што ад персанальнага выбару шмат што залежыць. Гэта тое, што кожны і робіць штодня: рабіць свой выбар і несці за яго адказнасць. Нават той, хто адмаўляецца нешта абіраць, насамрэч абірае – адмаўленне. Думаю, Купалаўцы не пашкадавалі. Я ў прыватнасці таксама не шкадую за свой выбар. Хацелася б, каб было як мага болей людзей, якія б маглі рабіць свой асэнсаваны персанальны выбар і мелі смеласць несці за яго адказнасць.

**АМ: Зараз у Беларусі праводзяцца мастацкія выставы (у канцы 2021 быў Арт-Менск, ды шмат іншага). Відавочна гэта цалкам пад кантролем і пад уплывам сістэмы. Што можна сказаць пра мастакоў, якія ўдзельнічаюць у цяперашніх афіцыйных імпрэзах: з аднога боку то не злачынства, з іншага ж, раз маюць магчымасць афіцыйна выстаўляцца, то пэўным чынам змушаны выказваць лаяльнасць да сістэмы? Што тут пераважае?**

**ГК:** Я б не сказаў, што нейкая дзейнасць у Беларусі зараз аўтаматычна прыроўніваецца да лаяльнасці. Зусім не факт. Я не лічу, што той, хто зараз у Беларусі і сплочвае падаткі -- здраджвае дэмакратычным каштоўнасцям – гэта лухта! Той, хто ў Беларусі і знаходзіць у сабе моцы, матывацыю рабіць нешта карыснае (асабліва для іншых) – гэта вельмі моцная і вельмі адказная пазіцыя. Калі казаць канкрэтна пра выставу, я б проста глядзеў, што там было: гэта нешта кшталту «Слава Лукашэнку» альбо нешта антываеннае, скажам, ці агульначалавечае. Нават пад акупацыяй можна і трэба рабіць тое, што будзе працаваць супраць акупацыі зараз і тое, што дасць плён праз некалькі год.

**АМ: Ну пры гэтым, відавочна, трэба ісці на пэўныя кампрамісы...**

**ГК:** Можа і так. Я б нейкага агульнага алгарытму ці рэцэпту не высоўваў. Тут не абагуліш ніяк. Чалавек, які малюе карціну ў Беларусі ці стварае кіно, ён жа можа рабіць нешта вечнае, пра што будуць казаць праз пакаленні і праз што назва Беларусі будзе пашырацца, узбагачацца. З аднаго боку. З другога боку, ён можа натуральным чынам служыць сістэме і рэжыму. Але што ёсць што, трэба глядзець канкрэтна, а не пра прынцыпе: хто выехаў, хто застаўся.

**АМ: Калі казаць пра тэлебачанне і ў цэлым прапаганду. Пасля 2010 года прынамсі адзін чалавек – Сяргей Дарафееў – публічна сышоў з БТ. Пасля 2020 гэта ўжо дзясяткі. Ці магчымая ўперадзе яшчэ нейкая падзея, якая расплюшчыць вочы камусь з тых, хто й па сёння застаецца (шукаючы дасюль кампрамісу), ці там ужо поўны маральны заняпад?**

**ГК:** Было б цікава дазнацца менавіта ад іх пра матывацыю. Мне падаецца, што частка прынамсі заплюшчвае вочы, маўляў, я проста ўключаю камеру, ці я проста накладаю грым і я нічога такога не раблю. Будуць тыя, хто будзе казаць «Я -- як усе», будуць і тыя, хто скажа «У мяне ж крэдыты, дзеці, бацькі...». Тыя, хто абсалютна шчыра лічыць, што ўсё робіцца так, як мае быць. Люстрацыі маюць падлягаць як прадстаўнікі сілавых структур, пачынаючы з ГУБАЗіКа, скончваючы АМАПам, так нешта падобнае трэба бузе рабіць і з прапагандыстамі – гэта безумоўна.

**АМ: З прыватных размоваў з людзьмі, што працуюць сёння ўнутры сістэмы, я зразумеў, што для многіх сама па сабе немагчымасць выказацца і патрэба моўчкі ўспрымаць беззаконне – вялікі маральны цяжар, ганьба для саміх сябе. Па сутнасці ж яны робяць важныя і карысныя рэчы на сваіх месцах. Што можна сказаць гэтым людзям, дзе ім шукаць маральную апору ў такія часы?**

**ГК:** Я б сказаў так, што тыя, хто зараз знаходзяцца ў Беларусі, у каго хапае маральных, каштоўнасных і нават фізічных рэсурсаў рабіць справу сваю шчыра, несці нейкія гуманістычныя, агульначалавечыя каштоўнасці – гэта сапраўды героі. Гэта тыя, хто стварае Новую Беларусь ужо зараз, асабліва гэта тычыцца педагогаў.

Хацелася б, каб тыя людзі, хто працуе ў рэжыме выбару меншага зла, зразумелі, што яны ўсё адно абіраюць зло. Але гэта ўсё персанальная адказнасць – яе будзе кожны несці сам перад сабой, перад сваім сумленнем.

**АМ: Ці дарэчна праводзіць паралелі паміж цяперашняй сітуацыяй у Беларусі і позним Савецкім саюзам?**

**ГК:** Я думаю, не. У СССР была моцная агульная ідэя, якая ў пэўнай меры застаецца і па цяпер. Гэта была грунтоўная і магутная ідэя. Зараз у беларускага рэжыму ідэі няма аніякай: ні постсавецкай, ні пасляваеннай («абы не было вайны» – бо вайна ідзе). Ніякай ідэалагічнай апоры няма, тое ж самае і ў эканоміцы. Спецыялісты кажуць, крызіс, які чакае Беларусі, будзе горшы, чым напрыканцы васьмідзясятых. У Расеі будзе яшчэ горш.

Фактычна мы зараз бачым зруйнаванне таго сусвету ў цывілізацыйным разуменні, які быў пасля Другой сусветнай вайны. Што будзе выбудоўвацца – залежыць ад нас, ад таго, што мы будзем рабіць, аб чым будзем думаць і што будзем пісаць.

*Алесь Мінаў*



# ЮЛІЯ ЦІМАФЕЕВА

Юля Цімафеева -- паэтка і перакладчыца. Аўтарка трох зборнікаў паэзіі і дзённіка паўсядзённага жыцця ў пратэстным Мінску. Яе творы перакладаліся на многія мовы, выходзілі асобнымі кнігамі ў Польшчы, Германіі, Швецыі і Нідэрландах.

Адна са стваральніц і сябра рады інтэрнэт-часопіса перакладной літаратуры "ПрайдзіСвет". Перакладае з ангельскай мовы, а таксама друкавала пераклады паэзіі з партугальскай, нямецкай, украінскай і інш. моў. Асобнымі кнігамі выйшлі вершы Ўолта Ўітмэна і Стывэна Крэйна. У яе перакладзе з нарвежскай з'явіліся дзіцячыя кнігі Стывена Холе і Маі Лундэ. Уладальніца прэміі Карласа Шэрмана за пераклад выбранай паэзіі Стывена Крэйна.

## СТЫВЕН КРЭЙН (STEPHEN CRANE)

### СТАЯЎ БАРВЯНЫ ГРУКАТ ВАЙНЫ… (THERE WAS CRIMSON CLASH OF WAR…)

Стаяў барвяны грукат вайны.
Зямля была счарнелай і пустой;
Жанчыны плакалі;
Малечы напужаныя беглі.
Раптам з'явіўся чалавек, які нічога ў гэтым не разумеў.
Ён запытаўся: «А чаму так?»
І тут жа мільёны кінуліся яму адказваць,
Узняўшы шматгалосы бязладны гоман.
Але прычыну не назвалі.

### ВОСЬ З КРАІНЫ ДАЛЁКІХ СОНЦАЎ… (BEHOLD, FROM THE LAND OF THE FARTHER SUNS…)

Вось з краіны далёкіх сонцаў
Я вярнуўся.
І апынуўся ў месцы, якое кішэла рэптыліямі,
Што грымаснічалі і крыўляліся,
Ахутаныя зверху непранікальным змрокам.
Я адхіснуўся гідліва
Ад пабачанага.
І запытаўся ў яго:
«Што гэта?»
Змарудзіўшы, ён адказаў:
«Дух, гэта сусвет.
Ён быў табе домам».

### Я БЫЎ У ЦЕМРЫ… (I WAS IN THE DARKNESS…)

Я быў у цемры.
Я не бачыў ні сваіх слоў,
Ні жаданняў свайго сэрца.
І раптам яркае святло заззяла.
«Пусці мяне назад у цемру».

### РАЗГНЕВАНЫ БОГ… (A GOD IN WRATH…)

Разгневаны бог
Збіваў чалавека.
Ён гучна сцябаў яго,
Громам грымелі ўдары
І грукатам разносіліся па свеце.
Збегліся ўсе людзі.
Чалавек крычаў і выкручваўся,
У шале кусаючы бога за ногі.
Людзі гарлалі:
«Ах, які благі чалавек!»
І –
«Ах, які грозны бог!»

### АДНОЙЧЫ ЗНАЙШОЎСЯ ЧАЛАВЕК… (ONCE THERE CAME A MAN…)

Аднойчы знайшоўся чалавек,
Які загадаў:
«Пашыхтуйце мне ўвесь народ на зямлі».
І тут жа
Узняўся страшны галас сярод людзей,
Якія шыхтавацца не пажадалі.
Усчалася шумная звада на абшарах зямлі
І цягнулася доўга-доўга;
Пралілася кроў
Тых, хто не згаджаўся станавіцца ў шэрагі,
І тых, хто ў шэрагах знемагаў.
Урэшце чалавека, усяго ў слязах, пакаралі смерцю,
А тыя, што перажылі крывавую сечу,
Пазбавіліся вялікай прастадушнасці.

### Я СТАЯЎ НА ЎЗВЫШШЫ… (I STOOD UPON A HIGH PLACE…)

Я стаяў на ўзвышшы
І бачыў, як унізе мноства дэманаў
Скакала і сноўдала,
І бражнічала грахоўна.
Адзін глянуў уверх, ашчэрыўся
І клікнуў: «Таварыш! Браце!»

### НЕ ПЛАЧ, ДЗЯЎЧЫНА, ДОБРАЯ Ж ВАЙНА… (DO NOT WEEP, MAIDEN, FOR WAR IS KIND…)

Не плач, дзяўчына, добрая ж вайна,
Калі твой любы ўскідвае ў адчаі рукі ўвысь
І конь настрашаны імчыцца сам адзін,
Не плач, дзяўчына.
Добрая вайна.

Ахрыплыя, глухія барабаны палкоў,
  Душы ўбогія, якія рвуцца ў бой,
  Іх нарадзілі на муштру і смерць.
  Не вытлумачыць славы арэол, які вакол іх,
  Вялікі Бог вайны, вялікае і царства ягонае –
  Палі, дзе тысячы палеглі.

Не плач, дзіцятка, добрая ж вайна,
Калі твой тата ўпаў у жоўты пясок траншэі,
З прабітымі грудзьмі, уздыхнуў і згінуў,
Не плач, дзіцятка,
Добрая вайна.

Імклівы прамяністы сцяг палкоў,
  Арол з чырвона-залацістым грабянцом,
  Іх нарадзілі на муштру і смерць.
  Ім растлумач, у чым людскасць бойні,
  Ім раскажы, у чым забойства ўцеха,
  І пра палі, дзе тысячы палеглі.

Матка, чыё сэрца самотным гузікам павісла
На белым, пышным саване твайго сынка,
Не плач жа,
Добрая вайна.

*Пераклад з ангельскай Юлі Цімафеевай*

*Вершы друкаваліся ў серыі "Паэты планеты": Выбраныя вершы / Стывен Крэйн. – Мінск : Зміцер Колас, 2020.*

## ВОЛЬГА ЯКУБОЎСКАЯ





# НАДЗЕЯ ГАРЭЦКАЯ

"17 год я пражыла ў Лідзе, 17 у Менску, а цяпер за тры месяцы змяніла 3 краіны, проста зараз у мяне дома няма, хоць фізічна я ў Вільні. Выхоўваю трох дзетак, менавіта праз тое, што трэба было іх вучыць па-беларуску, я змяніла сваю кваліфікацыю і стала настаўнікам, хоць да гэтага была тураператарам і эканамістам. Зараз выкладаю анлайн для дзетак-беларусаў, якія раскіданыя па розных краінах. Мае вучні жывуць ад Брытаніі да Узбекістана".

* * *

Ад крыжа ў Курапатах
Да Акрэсцінскіх нар
Галасіць узараты,
Непакаяны шнар.

І звініць кайданкамі
Салідарнасці цяж
Ад яроў з чарапамі
Да смярдючых параш.

Галасы скатаваных
І памерлых уздых
Лямантуюць званамі
І малітвай святых.

Курапацкія стогны
І Акрэсцін туга –
Непазбежныя звёны
Аднаго ланцуга.

* * *

Мне сорамна, што я ў цяпле, ты -- не.
Сям'я са мною, і мой стол накрыты.
Ды страх, як хлеб, мачу ў сваёй віне:
Ну як там твой чарговы дзень пражыты?

Мне сорамна – я дыхаю вясной.
Я не нясу твой боль, сама сябе ратую,
Бо не набраць вады з ракі сухой,
Слязой праклятай я ж не пачастую.

Злуюся зноў і голасна малю,
Каб ты паспаў хоць ноч, каб ты дамой вярнуўся,
А ты сям'ю ўбачыла сваю,
Каб кожны дзень апошнім апынуўся.

Даруй мяне, сябра, мой герой –
Незнаёмы адрасат вязніцы
За суп гнілы ў камеры сырой,
За ветру гул з турэмнае аканіцы.

Прабач мяне за сум, за немач рук,
За маладушша, зніклыя надзеі,
За то, што ты і мне ўздымаеш дух,
І вера ў тваім сэрцы не радзее.

## СЕМ'ЯМ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Ён трымаў годна сцяг
Над сваёй галавой
Калі жэрлі машыны крыжы

Ён глытаў моры слёз,
Ды не здаў ні адной,
Грузам гонару боль задушыў.

Яна голасам мужа
Вітала натоўп.
Слёзы ліла таемна ўначы.

Яна стала ў праломе
Разбітых шыхтоў,
Каб трымаць строй і душы лячыць.

Ён цярпеў здзекі вырадкаў,
Здрадцаў пляўкі,
Свінням брудным пярлін не кідаў.

Ён у глебе пакутаў
Пусціў карані,
Прагна вільгаць жывую глытаў.

Яна лісцем гаючым
З ягоных галін
Боль здымала і сцішвала кроў.

І карміла пладамі,
Што з цярпення ўзраслі,
Саслабелых ад ран ваяроў.

Калі золку прамень
Цемры покрыў разбіў,
Пераможнае сонца ўзышло,

Як любіла яна,
І як ён любіў.
Мы спявалі, што моцы было.

## ШЧАСЛІВЫЯ

Шчаслівыя, што на свабодзе,
У родным мястэчку і хаце.
Пішыце лісты, будзьце ў згодзе,
Маліцеся. Верце. Чувайце.

Шчаслівыя, што ў выгнанні,
Пад сцягам святым на канцэрце.
Агучвайце нашы чаканні.
Спявайце. Прасоўвайце. Верце.

Шчаслівыя, што ў вязніцах,
Што свецяць любоўю з-за кратаў.
Шукайце свабоды крыніцы,
Ламайце муры пешняй праўды.

Шчаслівыя, што ў магілах,
Імёны каторых запомнім.
Цячыце крывёй у нашых жылах,
Уздымайце з кален, калі стогнем.

Ды гора вам, тыя, што гінуць,
Пакорна йдучы на закланне.
Вас струшчаць у попел і кінуць
Пад ногі свіней на таптанне.

## КРЫВАВЫ ПАТОП

Нібы ўчора было:
дапатопны той свет,
Дзе сябруе ягнятка з ільвіцай.
Усё счэзла, згніло.
Толькі скрыўлены след
Нагадае пра дом і вясніцы.

Вось на хвалях каўчэг,
Смерць у вокны зірне
Закрычыць ненасытная прорва.
Мора поўна вачэй,
Цесна трупам на дне,
Дзікі боль душыць енкамі горла.

Усё пройдзе, міне,
Неба спыніць свой енк,
Прыляціць з добрай весткай галубка.
Сонца ж стане цямней,
Ледзяны будзе век.
Злезе гожасць з зямлі нібы луска.

А пасля будзе баль,
Зацвіце зноўку бэз,
Усміхнецца матуля дзіцяці.
Знікне боль, сум і жаль.
Скіне голкі агрэст,
Стане львіца сяброўкай ягняці.

Заўтра
Быць можа, ужо заўтра свята:
Як золак смугу развее,
Трухою рассыпяцца краты
Паўстануць на яве надзеі.
…
Ды нават калі мы заўтра
Зноў стрэнем цяжкі світанак,
Паказываць слёзы не варта,
Мірыцца з паразаю рана.










## "ГЛАБАЛЬНАЕ "СЭРЦАПАЦЯПЛЕННЕ"

**Паліна Старыкава мела свой бізнес у Беларусі, падчас рэвалюцыі дапамагала грашыма палітвязням і валанцёрам. Але ў канцы 2021 года, калі ў яе дом прыйшлі зператрусам, вымушана была сабраць рэчы і хутка пераехаць у Кіеў. Там да самага пачатку вайны яна працавала на тэлешоу "Ігри талантів".**

Пагутарылі з Палінай пра працу на тэлебачанні і карэнны перапом у жыцці і планах з пачаткам вайны.

**Алесь Мінаў: Вам удалося знайсці працу ў Кіеве амаль адразу па пераездзе, да таго ж у даволі цікавай галіне, распавядзіце, што гэта быў за праект, што найбольш уразіла?**

**Паліна Старыкава:** Так як гэта былі вельмі маштабныя здымкі, буйны праект, на пляцоўцы працуе вельмі шмат дэпартаментаў: кожны адказвае за сваю задачу, вы практычна не перасекаецеся. Гэта падобна на вялікую карпарацыю. То-бок сумесь творчае працы і тэхнічнае. Першапачаткова ўвесь праект – адказнасць, задумы – ляжаць на прадзюсарах. Наша праца заключаецца ўжо ў выкананні гэтых задум: есць задача і мы яе крок за крокам выконваем.

**АМ: І якой была непасрэдна ваша задача?**

**ПС:** Я адказвала за ўдзельнікаў: яны прыязджалі з розных краін. Насамрэч, я калі ўпершыню апынулася на пляцоўцы – атрымала вялізны стрэс: усё адбываецца неймаверна хутка, шалёны тэмп. У нейкі сэнсе, як у нашым жыцці цяпер.

**АМ: Ці магчымы такі размах у Беларусі?**

**ПС:** На жаль, на вялікі жаль, не. Да таго ж – абсалютна не. Нават прыватны прадакшн у нас абсалютна меншы, невымерна. Пра дзяржаўны ўвогуле казаць не варта. Ва Украіне мяне ўразіла ў тым ліку і стаўленне да супрацоўнікаў, удзельнікаў: нават шалёны маштаб не перашкаджае захоўваць чалавечнасць з боку кіраўніцтва. Такі сямейны дух у калектыве пануе, я б сказала.

**АМ: Ці паспелі вы закончыць праект?**

**ПС:** Акурат 23 лютага ўночы мы адзнялі апошні эпізод, парадаваліся і раз'ехаліся па дамах. Ужо праз некалькі гадзін пачаліся выбухі ў Кіеве. Таму такое адчуванне, нібы шоу не скончылася, а ўсё гэта – нейкі дзіўны яго працяг. Так апынулася, што ў гэты момант я была адна. Гэта было найбольш страшна: не разумела, што рабіць, ці то бегчы, ці то хавацца ў кватэры. За дзвярыма было ўжо чуваць грукат ног, колаў валіз – усе беглі.

**АМ: Вам таксама ўдалося дабрацца да польскай мяжы. На колькі складанай была дарога?**

**ПС:** За мной заехалі сябры, мы разам выбіраліся. На гэта сышло некалькі дзён: дарогі былі перапоўненыя машынамі – усе імкнуліся на захад, у небе пастойна нешта гудзела – самалёты (мы нават не разабралі, украінскія ці не). У Львове мы ў цягнік не патрапілі. Да таго ж апынуліся ў страшэннай тузаніне на вакзале – бадай самы страшны момант з усяго. Крычала проста ў натоўпе: "Спыніцеся, калі ласка!". Гэта сапраўды выпрабаванне, вялікі стрэс. Але ўсведамленне прыйшло толькі ў Польшчы, калі апынулася ў бяспецы.

**АМ: Цяпер вы ўжо ў Грузіі, далёка ад баявых дзеянняў. Ці атрымалася зрабіць для сябе нейкія высновы, прыйсці да разумення: на колькі глабальна змянілася жыццё, што будзе далей?**

**ПС:** Я мяркую, мы не зможам ужо вярнуцца да таго, што было раней, цяпер усё будзе па-іншаму. Але па-іншаму не азначае кепска. Я ўпэўнена, што, калі гэта ўсё скончыцца, будзем адбудоўваць сваё жыццё наноў, але яно будзе абсалютна новым ва ўсіх. Новая рэчаіснасць будзе іншай, але будзе лепей, я ўпэўнена.

**АМ: За гэты час вы ва ўцёках: з Беларусі ад рэпрэсій, з Украіны ад вайны, побач, вядома шмат людзей: украінцаў, палякаў, грузінаў... А ці адчуваеце вы сваю прыналежнасць да Беларусі ў гэтых абставінах, ці пазнаеце нашых?**

**ПС:** Я заўважыла на працягу ўсяго гэтага часу – дзе б я ні была – што мы, беларусы, застаемся такімі "дабракамі". Нават па цяперашнім стаўленні да беларусаў (праз пашпарт ці праз мову) гэта бачна: ні я, ні людзі, з якімі размаўляю, на гэта не крыўдуем, наадварот разумеем чаму. Мы здольныя зразумець нават негатыўнае да сябе стаўленне, імкнемся спакойна ўсё патлумачыць.

Мяне радуе тое, як моцна людзі падтрымліваюць адно аднаго, незалежна ад нацыянальнасці ці чагосьці іншага. Як казаў мой іншаземны сябар – не ведаю, як карэктна перакласці, але люблю цяпер гэты выраз – гэта глабальнае "сэрцапацяпленне". У такія страшныя часы, апроч усяго, добра адчуваецца чалавечнасць. У беларусах асабліва, гэтага нас не пазбавіць.



## УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ.

24 лютага Расея пачала паўнавартасны напад на Украіну, вайна трывае па сёння з тысячамі ахвяр, сцертымі з зямлі гарадамі, крывёй і брудам. Трагізму дадае той факт, што ракеты на мірныя раёны ляцяць у тым ліку і тэрытрпыі нашай краіны, танкі на штурм Кіева йдуць з поўдня Беларусі. Рэчы, якія цяжка прыняць і складана ўсвядоміць. У сваім фэйсбуку Уладзімір Някляеў вельмі трапна выказвае пачуцці, блізкія і зразумелыя бадай кожнаму беларусу.

### УКРАІНЕ

Журбую – помнішся ў журбе.
Сьвяткую – у сьвяточнай скрусе.
О, Украіна! Я табе
І за гарою пакланюся.
Наканавана помніць двум,
Што па нялюбых не сумуюць,
Што зьберагае толькі сум
Ня памяць рэчы – рэч самую.
І калі б'юць наводмаш страты, –
Каб нешта зьберагчы,
Цябе
Прыкусваю, саланаватую,
Нібы крывінку на губе.

### НОВАЯ ЗЯМЛЯ

*«Мой родны кут, як ты мне мілы…»*
*Якуб Колас, «Новая зямля».*

Мне раптам стаў нямілы родны кут.
І я б забыў, што нарадзіўся тут,
Каб даў мне Бог забыць, каб разлюбіць даў сілы
Пагорак той, дзе продкавы магілы,
Дзе хутка ўжо і мне на Божы суд.

Я ведаю, што я на тым судзе
Скажу. Што я нікому і нідзе
Не здрадзіў, што ў крыві не вінаваты…
А Бог спытае: «Не прадаў ты брата?
Сястру сваю не кінуў ты ў бядзе?»

Я б адказаў, што не!.. Калі б Ён
сілы даў
Змагчы той жах, што нада мной паўстаў,
Нянавісць, што, як пыл, любоў з
зямлі змятае!..

Ён ведае, што я не прадаваў.
Я ведаю, чаму Ён так спытае.

* * *

Шчасце – што яно такое?
Ведама даўно,
Што яно не залатое –
Крэўнае яно.

Шчасце – гэта не па чыну
Хапаць, багацець...
Шчасце – гэта за Айчыну
Сораму не мець.

* * *

…О, Русь! Ты почему не содрогаешься,
Когда у сына спрашивает мать:
«Сынок, ты хоть за Родину сражаешься?..»
А он не знает, что в ответ сказать.

## ДАДАЙЦЕ СВОЙ ГОЛАС ДА СУГУЧЧА ЛЯМАНТУ

**Беларусь – гэта кожны з нас, кожнае слова, кожная думка. Таму нам асабліва важна яднаць і яднацца на старонках нашай газеты.**
**Запрашаем дасылаць у рэдакцыю вашыя меркаванні, творчыя праявы, фота альбо карціны, дзяліцца ці то дасягненнямі й перамогамі ці то – што на жаль сёння актуальна – болем і тугой.**
**Страх, які імкнецца апанаваць усё грамадства, параджае маўчанне.**
**А маўчанне паралізуе, маўчанне забівае асобу і народ.**
**Сёння рэжым забірае магчымасць выказацца, магчымасць пачуць. Не дамо ж яму гэтага зрабіць! Калі вы знаходзіцеся ў Беларусі – пішыце нам ананімна ці пад псеўданімам – выказвайце тое, што ворагам беларушчыны чуць няёмка й страшна.**

**Наша слова – наша зброя, у сугуччы яна гартуецца й мацнее. У нашым Лямантце наша праўда!**
**З Днём Волі, сябры,**
**Жыве Беларусь!**

Пошта: gazietaLamant@gmail.com
Тэлеграм-канал: t.me/Lamant_gazieta